Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# Н ЕРАД!

адыкальная тыднёвая часопісь.

**Цана** асобнага нумару **20 гр.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 9 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1мес.—75 гр.

Г

Вільня, 19 ліпня 1930 г.

№. 21

## Да нашых падпішчыкаў і чытачоў.

**З вёсак усяе Заходняе Беларусі мы атрымліваем масу лістоў і паштовак з просьбай высылаць газэту. Разумеючы вялікае значэньне й патрэбу друкаванага беларускага слова, мы напружываем усе свае сілы, каб рэгулярна выпускаць газэту. Аднак на сваёй дарозе мы спатыкаем вялікія грашовыя труднасьці. Памінаючы самаахвярную працу нашых супрацоўнікаў, газэта яшчэ ня можа аплачывацца з падпіснсе платы. ПАТРЭБНА ШЫРЭЙШАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА ўсіх нашых падпішчыкаў, чытачоў і сымпатыкаў. Хай кожны падпішчык заахвоціць сваіх знаёмых да выпісываньня свае газэты! Такім чынам, стварыўшы ланцуг падпішчыкаў, мы ўзмацнім наш грашовы фонд. Нашае грамадзянства—будзьма шчырымі—прызвычаілася да бязплатнай газэты. Трэба ўрэшце добра сабе ўцяміць, што ў сучасны мамэнт нічога бяз грошаў зрабіць нельга. Толькі пры супрацоўніцтве й дапамозе ўсіх сьвядомых падпішчыкаў мы здолеем рэгулярна выпускаць сваю газэту.**

**Падпішчык! Бліжэй да газэты!**

**РЭДАКЦЫЯ.**

## Яшчэ адна—можа апошняя—спроба.

Усім беларусам добра памятны тыя часы, калі польская прэса згодным хорам на ўсе лады трубіла аб „процідзяржаўнай“ дзеяльнасьці найвялікшай у Польшчы, магутнай некаліс, арганізацыі Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і дамагалася ад Ураду неадкладнае і рашучае яе ліквідацыі. Чаго-ж толькі ня вылівалася тады на галовы павадыроў Грамады? Абвінавачвалі іх абсолютна ўва ўсім: тут была й здрада, тут было й зламаньне пасольскае прысягі, тут быў і шпіёнаж, было й збройнае паўстаньне, адным словам, *было ўсё, чаго ня было* — была мана, інжа, была самая агідная хлусьня ў мэце сьпіхнуць на беларусаў тое, што з'яўлялася *першародным грахом* польскае дэмократыі ў адносінах да братняга ёй беларускага народу — таго народу, які на працягу паўтары сотні гадоў у барацьбе з маскоўскім царызмам нямала страціў сваіх лепшых сыноў, якія нароўні і супольна з сваімі таварышамі палякамі йшлі ў Сібір і гінулі ў тайгах Нарымскага й Туруханскага Краю з сьвятымі словамі на вуснах: „За нашу і вашую вольнасьць“!

І калі-б ужо нельга было абыйсьціся бяз ужываньня гэтага крылатага слаўца „Здрада“, дык тады прыйшлося-б гаварыць не аб здрадзе беларусаў, не аб здрадзе паслоў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, якія чынам паказалі, што яны ня толькі мірацца з рэальнымі варункамі бягучай сучасьнасьці, але гатовы нават цаніць і берагчы ўсялякі істнуючы лад (падтрыманьне ўраду Сікорскага пасьля забойства прэз. Нарутовіча), *паколькі, зразумела, ён дае народу магчымасьці духоўнага разьвіцьця і спакойнай ды творчай працы,* а аб здрадзе польскае дэмократыі, аб здрадзе тых таварышаў палякаў, якія яшчэ так нядаўна пялі ўсяму сьвету — аблудныя, як аказалася, словы „аб роўных з роўнымі, аб вольных з вольнымі“, у той час калі стаўшы вольнымі самі толькі дзякуючы надзвычайна спрыяючым шчасьлівым вонкавым абставінам, яны адразу зьмянілі свае адносіны да недаўных сваіх таварышоў па няшчасьцю — беларусаў, украінцаў, ліцьвіноў і іншых. Проста ня хочацца верыць, што той, хто найбольш хіба адчуў на сваёй шкуры зьдзек пануючага царызму, стаўшы вольным, заняў месца нядаўных царскіх апрычнікаў.

Ня варта, што праўда, паўтараць тут усім добра вядомыя рэчы. Найлепшым падцьверджаньнем нашае тэзы і віны польскае дэмократы перад беларускім народам з'яўляецца перадавіца з Kur. Wil. № 157 з II.VII. 30 г., дзе, між іншым, аўтар кажа, што, дзякуючы блізказрочнай палітыцы Польскага Ураду ў адносінах да беларусаў, вытварылася такая сытуацыя, што здавалася ўжо ўсё на заўсёды страчана, што ўжо ніколі ня ўдасца наладзіць магчыма-людзкія польска-беларускія адносіны, і толькі прыпадак, лёс ласкавы, як кажа аўтар, „даў нам па дзесяці гадох яшчэ адну — можа апошнюю — спробу направіць польска-беларускія і польска-украінскія адносіны“.

У гэтым нельга не згадзіцца з аўтарам стацьці „За новую эру польска-беларускіх адносінаў“. Сапраўды, настала рашучая хвіліна, калі павінны быць урэшце шчыра, ясна, проста ды чэсна адкрыты карты з абодвух бакоў. Беларусы павінны адкрыта сказаць, ці яны ўважаюць сябе грамадзянамі Польскае Дзяржавы, з якую злучыў іх шчасьлівы ці няшчасны лёс, і гэтым самым прыймаюць на сябе ўсе абавязкі, якія накладвае дзяржаўнае жыцьцё на кожнага грамадзяніна, патрэбаваўшы адначасна, зразумела, поўні правоў для свайго народу; на абавязка-ж Дзяржавы, г. зн. Ураду і польскага грамадзянства ляжыць так-жа шчыра, проста і чэсна ня толькі карміць абацянкамі для пэўнага вонкавага ўражаньня на вынас, як, нажаль, было дагэтуль, а чынна забясьпечыць беларусам поўню іх правоў.

Ня час цяпер вымаўляцца ды выкручвацца, хапаючыся за нічога ня вартыя дый ня маючыя ў рэальным жыцьці ніякага значэньня розныя кручкатворныя фармальнасьці, бо-ж мы ўсе ўжо за надта добра на гэтым знаемся, а ясна, шчыра і проста выканаць свой абавязак перад беларускім народам, папраўіўшы тыя крыўды, якія былі яму зроблены ашаленым польска-эндэцкім шовінізмам.

Трэба памятаць, што мы, беларусы, сьвядомыя сёньня сваіх абавязкаў, ня лепш сьвядомы і сваіх правоў, якія і будзем бараніць да апошняга, незалежна ад таго, хто ім будзе пагражаць.

Апошнія два гады хіба даволі выразна паказалі, што мы знайшлі ў сабе шмат сілы, каб уступіць у далёка-няроўную барацьбу з нашымі quasi апякунамі зьлева, калі ўбачылі, што яны, імкнучыся да сваіх утопійных рэчаў, павялі наступ на нашыя самацэнныя культурныя ўстановы. І мы перамаглі, бо-ж ня ў сіле — сіла, а ў праўдзе!

З няменшай сілай і яшчэ з большым упорам мы будзем бараніць свае правы і перад тым, хто павядзе на іх наступ і з другога боку, на'т і тады, калі ён будзе паходзіць з лягеру сёньня ўладу маючых. Праўда, і тут барацьба будзе няроўная, а мо' яшчэ больш небясьпечная, можа нас разабьюць — магчыма, але *гэтым* яшчэ *нас ня пераможуць.* Нашае месца займуць нарастаючыя, новыя, маладыя і сьвежыя сілы, якія, верым, давядуць справу поўнага вызваленьня беларускага народу да канца.

Няхай-жа сёньняшнія рулявыя польскае дзяржаўнае палітыкі зразумеюць, што надыйшла сапраўды апошняя хвіліна, калі трэба шчыра і чэсна падыйсьці да рэалізацыі нашых слушных, добра ведамых усім, дамаганьняў ды выкарыстаць гэтую апошнюю спробу так, каб яна сапраўды была *апошняй па канчальнаму ўнармаваньню* беларускай справы ў Польшчы — унармаваньню, якое бы дало нам *сапраўдна-згоднае* сужыцьцё гэтых двох братніх народаў.

**Э р а.**

## Звальненьне з вастрогу Ф. Акіньчыца.

**Надовячы звольнены з вастрогу юрысконсульт Цэнтральнага Камітэту Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады Фабіян Акіньчыц. Астаўся яшчэ толькі адзін сябра Ц. К-ту, Валошын, якога, як ходзяць чуткі, неўзабаве высвабадзяць таксама.**

## „Новая эра“ і беларуская школа!

Здабыцьцё, стварэньне роднай школы, гэта—задача, якая лучыць цяпер—у адзіным і згодным імкненьні—усё нацыянальна сьведамае беларускае грамадзянства.

Бо-ж для яго стала ясным, што родная школа для народу, гэта — адзіны шлях, запраўднага вольнага і бязьмежнага ўзросту і разьвіцьця яго нацыянальнай асобы, — найвярнейшая парука дасягненьня народам яго найвышэйшага ідэалу — поўні дзяржаўнай незалежнасьці.

З другога боку, школа ў роднай мове дзіцяці, гэта—абсалютна бяспрэчнае, агульна прызнанае трэбаваньне навукі ўзгадаваньня.

Такім чынам, культурна-нацыянальнае дамаганьне беларускага народу зьяўляецца адначасна і загадам пэдагагічнай навукі, неабходным варункам пасьпешнага навучаньня ў школе—належнай падрыхтоўкі і „азбраеньня“ сільных духова грамадзян да жыцьцёвай працы і барацьбы.

Але — далей — гэтае ўсебакова абаснаванае права беларускага народу на родную школы ўрачыста загврантавана яму ў Польшчы яе міжнароднымі трактатамі і асноўнымі законамі. І польскаму грамадзянству пара ўжо зразумець, што як гэтыя трактаты Польшчы, так і яе шмат каму „нявыгадная“—„накіненая“! — Канстытуцыя маюць мэтамі ня толькі ахову правоў і інтарэсаў даверaных Польшчы вялікімі дзяржавамі меншасьцяў, але і добра зразумелыя інтарэсы самай Польскай дзяржавы; узмацненьне ў ёй унутранага міру і ладу, а таксама забясьпечаньне ёй павагі, пашаны і падтрыманьня ўсіх звонку—збоку іншых магутных дэмакратыяў сьвету, без чаго — ніякі „cud“ ня ўтрымае яе ў жыцьці... А значыць, ня толькі сьведамы вораг нашага народу, жадаючы спыніць рост усіх яго духовых сіл і магчымасьцяў, але і вораг сілы і павагі Польскай дзяржавы — можа адмаўляць беларускаму народу ў Польшчы права на родную школу.

Такім сьведамым ворагам беларускага народу ў Польшчы, такім бязглуздым ворагам уласнай дзяржавы была, як ведама, дагэтуль польская эндэцыя, уладна кіраваўшая ўсёй меншасьцёвай палітыкай Польшчы.

Ужо чатыры гады зьлішкам, як нам кажуць усьцяж, быццам панаваньне гэтай бязглуздай эндэцкай палітыкі адносна да меншасьцяў скончылася.

Нам кажуць усьцяж, быццам у апошнія часы, асабліва — з боку атрымаўшай уладу ў краі польскай дэмакратыі з „лягеру Пілсудскага“ да беларусоў запанавала „новая эра“.

З горкім сумам, з запраўдным жахам перад будучыняй беларускага народу ў Польшчы, з страшэнным жалем, мы павінны сьцьвердзіць, што беларускі народ ніякай выразнай і рэальнай зьмены, ніякай „новай эры“ дагэтуль не адчувае! Беларускі народ ня мае яшчэ дагэтуль у польскай рэспубліцы нават гэтага першага і неабходнага варунку для свайго нармальнага жыцьця і разьвіцьця — роднай школы. Ня мае дагэтуль яшчэ гэтага мінімальнага доказу шчырага спагаду, духоўнай пашаны і зычлівасьці з боку польскае дэмакратыі. Некалькі дзесяткаў беларускіх і паўбеларускіх (а фактычна — польскіх) школаў для 2½ мільённага беларускага народу ў Польшчы — найлепшы довад нашага цьвярджэньня.

Нядаўна польскі дэпутат Прускага Сойму, Бачэўскі, апублікаваў параўнальныя лічбы—польскага школьніцтва ў Нямеччыне й нямецкага ў Польшчы, лічбы сапраўды абураючыя!

Напрыклад, дзяржаўных пачаткавых нямецкіх школаў—658 на 900.000 немцаў у Польшчы, у той час, калі польскіх школаў толькі 29 на паўтара мільёны (?) польскага насяленьня ў Нямеччыне. Уся польская прэса, цытуючы гэтыя лічбы, слушна бачыць у іх яўнае жаданьне немцаў у самым зародку зьнішчыць польскую душу ў польскага школьніка, перарабіўшы яе на нямецкую.

шасьцямі, робячы з іх усьцяж „унутраных ворагаў“ замест ляяльных грамадзян — можа—ў такія небясьпечныя часы ўжо-б і годзе...

### Расправы з пірынэйскімі „сэпаратыстамі“.

Як толькі францускія акупацыйныя ўлады адыйшлі з нямецкай зямлі, зараз-жа пачалася народная расправа з так званымі „сэпаратыстамі“. Справа ў тым, што-павоцле „пляну Фоша“, і Францыя сьпярша дабівалася на міравой канфэрэнцыі ў Парыжу, каб граніцай паміж Францыяй і Нямеччынай быў Рэйн... Пасьля, калі гэты запраўды-ж нядрэнны для Францыі „плян“ быў рашуча адкінены ўсімі іншымі сябрамі камандаваўшай тады ўсім сьветам „пяцеркі“, Францыя акупавала Надрэнію і высунула іншы „плян“, — зрабіць з Прырэйну нейкую самастойную, аўтаномную, калі ня зусім незалежную ад Нямеччыны дзяржаву, маючы на мэце за час акупацыі прыхіліць яе насяленьне да сябе настолькі, што яна сама (!?) заявіць аб жаданьні далучыцца да Францыі. Таму, атрымаўшы фактычную ўладу ў гэтай наскрозь нямецкай краіне, Францыя пачала падбураць насяленьне, каб дамагалася аўтаноміі, карыстаючыся тым, што прырэйнскае насяленьне ня любіла Прусакоў і Прусіі, да якой належала гэгэмонія ў кайзэравай Нямеччыне.

З гэтага ясна, што да гэтай францускай акцыі маглі далучыцца ў пэўнай меры і ідэйныя аўтанамісты, нават лятуценьнікі незалежнасьці ад Прусіі, але пэўне-ж найбольш аказалася ўсялякіх апартуністаў дый простых наймітаў, якія за грошы рабілі францускую справу, а не нямецкую...

Дык вось, цяпер значная лічба ўсялякага гатунку гэтых „сэпаратыстаў“, якіх пэўне-ж ведалі ўсе дабра ў краі, значна пацярпела ад народнага гневу. Дамы іх разбурылі, крамы разграмілі, саміх іх забівалі... Нямецкая паліцыя, пэўне-ж, спаўняла свой абавязак, але неяк спозьнена... Дайшло да таго, што ў справу ўмяшаўся нават францускі ўрад, бо-ж Францыя, ведаючы добра, што ўсім гэтым яе прыяцелям прыдзецца з часам горача, змусіла Нямеччыну падпісаць умову, гарантуючую бясьпечнасьць і нятыкальнасьць усіх дзеячоў, скампрамітаваных у „сэпаратызьмэ“...

### Англа-радавае паразуменьне.

У Лёндане йдуць усьцяж перагаворы з радавай дэлегацыяй у справе заключэньня нейкай сталай палітычнай і гаспадарчай умовы паміж Англіяй і СССР. Як пішуць газэты, радавая дэлегацыя пайшла на важныя ўступкі англіцкаму ўраду. СССР згаджаецца быццам у значнай меры споўніць дамаганьні Англіі ў справе царскіх даўгоў сплаціць прынамсі часьць (30%) належнасьці прыватным асобам. (Дзяржаўныя даўгі абедзьве стараны пастанавілі ўзаемна скасаваць цалком). За гэта быццам англіцкі ўрад гатоў адкрыць СССР пэўны крэдыт. Як доказ палепшаньня адносінаў, трэба паказаць на загад радавага ўраду, якім ангельцы ўласьнікі ў местах СССР атрымліваюць назад усе нацыяналізаваныя іхнія маемасьці—дамы і т. п.

### Прызнаньне СССР урадам Чэха-Славакіі (?).

Як з Прагі, таксама і з Масквы ідуць аднолькавыя весткі аб тым, што ў блізкім часе трэба спадзявацца афіцыяльнага прызнаньня радавага ўраду Чэха-Славакіяй. Быццам міністар Бэнэш ужо падрыхтоўвае адпаведныя крокі. Бэнэш заявіў, што Чэха-Славакіі вельмі патрэбны гаспадарчы трактат з СССР, але-ж ведама — радавы ўрад ня пойдзе на ўмову без афіцыяльнага прызнаньня СССР. Справа ў тым, што чэха-славацкі ўрад распачаў пляновую барацьбу з безрабоцьцем, дык спадзяецца атрымаць вялікія замовы для краёвых фабрыкаў з СССР. Бэнэш толькі „чакае адпаведнага мамэнту“.

### XVI кангрэс камун. партыі СССР.

Адбыўшыся ў канцы чэрвеня XVI кангрэс камун. партыі СССР, як можна было й спадзявацца, быў цалком ахоплены Сталінаўцамі. Недарма-ж з'езд быў адложаны на пару тыдняў, каб добра „падрыхтаваць“ выбары...

Цяпер толькі выявілася, колькі працўнікаў Сталіна—з левай і правай апазыцыі—было выкінена з партыі, саслана й пазбаўлена мандатаў. Сталін—у прамове, якая заняла больш 7 гадзінаў, даў агляд усяго, што зроблена партыяй (урадам) за апошні год, сьцьвердзіўшы нябывалыя пасьпехі ўваўсіх галінах дзяржаўнага будаўніцтва. Прадстаўнікі апазыцыі ў сваіх прамовах, каючыся, адмаўляліся ўрачыста ад сваёй „веры“, прыймаючы цалком „кардынальную лінію Сталіна“. Такім чынам, становішча Сталіна на нейкі час можна лічыць даволі моцным. Паміж іншым Сталін заявіў што калектывізацыя („калхозная“ палітыка) будзе тасавацца далей — плянова й паступова, толькі больш павольна й разумна—„з перадышкамі“..

### Фінляндыя. „Лаппаўскі марш на Гэльзінгфорс“.

7 ліпня ў сталіцы Фінляндыі, Гэльзінгфорсе, адбылася вялізарная маніфэстацыя, наладжаная так званымі „Лаппаўцамі“. На чале гэтага сялянскага руху, які мае дабіцца ад ураду рашучага зьліквідаваньня камунізму ў краі, стаіць нейкі Косула. Рух гэты пачаў прымаць характар падрыхтоўкі фашыстаўскага перавароту ў Фінляндыі, які быццам ставіў сабе мэту—рашучую зьмену залішне дэмакратычнай канстытуцыі, а калі ўдасца, дык і ўстанаўленьне ў краі ваеннай дыктатуры. Так прынамсі страшылі сьвет працўнікі руху.

Але скончылася ўся справа вельмі мірна і на'т канстытуцыйна, што трэба аднесьці на рахунак вялікай палітычнай культуры фінскага народу. Справа пачалася з таго, што сялянскія і буржуазныя групы ў Сойме і ў краі пачалі дамагацца, каб урад прыняў меры дзеля барацьбы з камунізмам. Але ўрад, які сам гатоў быў весьці рашучую барацьбу з камунізмам і на'т апрацаваў адпаведны законапраэкт, быў бязсільны правесьці гэтыя меры ў Сойме, у якім—на 200 паслоў есьць 60 сацыялістаў і 20 камуністаў. Дзеля таго, што рашучыя законы проці камуністаў маглі быць праведзены толькі пасьля зьмены некаторых стацей канстытуцыі, а для гэтага апошняга патрэбна згода 5/6 усяго складу парляманту, дык ясна. што патрэбнай большасьці для правядзеньня гэтых законаў у парляменьце знайсьці нельга. Справа заблутвалася яшчэ й тым, што такія надзвычайныя меры проці пэўнай палітычнай партыі, хаця і агульна прызнанай у краі шкоднай і небясьпечнай, пачаўшыся сягоньня на камуністых, маглі заўтра быць пашыраны і на іншыя палітычныя партыі, якія апынуцца меншасьцяй ў краі ці ў парляменьце... Таму да групаў, якія — поруч з камуністамі і сацыялістамі — занялі варожае становішча адносна да гэтага руху, апынулася і швэдзкая меншасьць у краі.

Але націск лаппаўцаў быў залішне сільны. Пачаліся расправы і самасуды над камуністамі па ўсяму краю. Лаппаўскія баёўкі пачалі хапаць на'т камуністычных паслоў—з памяшчэньня Сойму, з пасэджаньняў на камісіях!... Каб супакоіць „лаппаўцаў“, урад — з яўным нарушэньнем канстытуцыі — зачыніў усе камуністычныя газэты ў краі. Але гэта, выклікаўшы пратэст з боку парляменцкай апазыцыі, толькі падліло масла ў полымя лаппаўскага руху. Лаппаўскія правадыры апрацавалі свой праэкт закову проці камуністаў, які і апублікавалі — побач з адозвай, дзе заяўляюць, што як урад, так і парлямэнт, якія ня споўняць народнай волі, ня могуць ані воднага дня стаяць на чале народу. — „Фінскі народ трэбуе сільнага ўраду, які-б здолеў—ня гледзючы ні на што—ратаваць край ад небясьпекі і згубы“, казала адозва. Каб сільней націснуць на ўрад, і быў наладжаны — па ўзору італьянскіх фашыстаў—„марш на Гэльзінгфорс“.

Такія „маршы“ вялізарных сялянскіх арганізацыяў зьяўляюцца модным цяпер спосабам націску на палітычныя цэнтры з боку сялянскай масы.

Урад прэм. Каліо выйшаў у адстаўку, ня гледзячы на выражанае яму даверра большасьці парляманту (проці галасавалі толькі камуністы, сацыялісты і швэды).

На чале новага ўраду стаў стары, агульна паважаны ў краі, палітычны дзеяч Фінляндыі — вёўшы барацьбу за вольнасьць яшчэ з расейскім царызмам—Сьвінхувуд, ведамы, як рашучы вораг камунізму. Новы прэм'ер хутка паразумеўся з павадырамі руху.

Пасьля гэтай новай перамогі лаппаўскія павадыры неяк супакоіліся, заявіўшы, што вераць новаму ўраду і будуць ляяльна чакаць ад яго чынаў.

Таму адбыўшыся паход 14.000 „лаппаўцаў“ у сталіцу Фінляндыі прайшоў у поўным парадку. Урад зрабіў з гэтага паходу вялікую ўрачыстасьць. На сэнацкім пляцу адбыўся вялізэрны мітынг, у часе якога сказаў рад прамоваў сам правадыр руху,—Косула. Вялізарны натоўп народу перакідываў свайю павадыра на руках з аднаго канца пляцу на другі, каб усе чулі яго прамовы... Поўнае паразуменьне народнага руху з цэнтральнымі ўладамі сьцьвердзіў у сваей прамове да „лаппаўскай“ арміі і сам прэзыдэнт Фінляндыі Рэляндэр. Яго словы аб тым, што ўрад з пашанай адносіцца да голасу народа, які як відаць ня хоча ані ламаць канстытуцыі, ані ўводзіць дыктатуры, прыняты гучнымі воплясками 40-тысячнай масы, сабранай на пляцу.

7-га-ж вечарам лаппаўскія атрады пачалі раз'яжджацца, а на заўтра — парлямэнт прыняў у другім чытаньні даволі ўмераны законапраэкт—„аб некаторых зьменах у законе аб прэсе“ і „аб рэформе карнага кодэксу“. Абодвы законапраэкты, скіраваны проціў камуністаў.

Газэты дадаюць, што камуністы масава ўцякаюць з Фінляндыі ў Швэцыю, але і зтуль іх просяц ветліва ехаць—транзытам—далей...

### „Украінскі“ (?) праэкт „Вялікай Польшчы“.

Да сэнсацыяў апошніх дзён — у тым самым „калідорным“ духу—трэба залічыць і асабліва цікаўны для нас—беларусаў артыкул аднаго з павадыроў (?) украінскай эміграцыі ў Парыжу, князя Качубея, надрукаваны ў баявым воргане вялікай усенямецкай (!) арганізацыі пад назовам „Ордэн Нямецкай Моладзі“. Павадыр гэтага Ордэну доктар Абэль нядаўна ў сваіх парыжскіх прамовах трэбаваў, як мы ведаем, звароту Польскага Паморра, ці „Гданскага калідору“, Нямеччыне.

У гэтым артыкуле кн. Качубей даводзіць, што Польшча ў яе сучасных граніцах—залішне... малая, каб утрымацца паміж варожымі Нямеччынай і СССР.

Ніякая Ліга Нацыяў ня перашкодзіць няўхільнай вайне проціў Польшчы... А таму вялікія заходнія дзяржавы—на чале з Нямеччынай — павінны стварыць запраўды-ж — вялікую Польшчу, далучыўшы да яе сфэдэраваную з ёй Украіну (пэўне-ж—і Беларусь!).

Украіна, якая цяпер стогне пад радавым прыгонам, піша аўтар, ахвотна пойдзе на фэдэрацыю з Польшчай. Тады — вялікая Польшча, маючая ня 30, але 90 мільёнаў насяленьня магла-б мець пэўнасьць, што ўтрымаецца пры жыцьці — надоўга! Але-ж цяжкую задачу адарваньня Украіны (пэўне-ж і Беларусі!) ад СССР могуць выканаць толькі немцы... Дык трэба зрабіць так, каб зацікавіць немцаў у гэтай справе. А дзеля таго Польшча павінна дабравольна адмовіцца перш наперш ад Паморра; акром таго некаторыя іншыя „забраныя Польшчай нямецкія землі“ павінны

Х. І.

### Дымнае места.

Вечарам мглiста дымяцца вуліцы —  
Нехта разьліў у тумане жоўць...  
Ў вочы чаромхай электрыкі жмурыцца  
Места гулкае — фасфарычна воўк.  
Душна... Душна... Майскімі кветкамі  
Ўслалі рэклямы люстраную гладзь...  
Ходзім мы брукавымі палеткамі  
Вясновага госьця з палёў выглядаць...  
Добра вам цяпер, сінявокія вяскоўцы,  
Гуляе сьмех на вашых губох...  
Глядзіце ў вочы ворагу — воўку...  
Вялікі ваш час, жыхары дарог...  
Дымяцца...  
Дымяцца... вечарам вуліцы —  
Як-быццам ходзіць нейкая здань.  
Рукой махае й да сьценаў туліцца...  
Душна... Душна... Страшна нам!

1930.

М. Машара.

Адраджэньне — наша сьвята.  
Наша радасьць — Беларусь.  
Будзь-жа нечысьць ты праклята,  
Пакахаўшая прымус!  
Мы жывем ня днём будзённым,  
І жыцьцё наша ня сон.  
Край гаротны, край наш родны  
Маладзеець з кожным днём!  
Братцы, братцы, я — паверце —  
Веру ў шчасьце на зямлі,  
І усіх, хто чысты сэрцам,  
Заклікаю да імшы,  
Дзе мужык з дзіцячай верай  
Расьпяваець трапары...  
— Адчыні нам, божа, дзьверы  
Даўгасьнёнае пары....

10. I. 29

## Вучнёўскі фэльетон або „Надарма ты, Янка, ходзіш“...

Вучыўся... Верыў... Кахаў... Імкнуўся ў сьветлыя далі... І раптам, ведаеце, як-бы зьляцеў з даху! Скончыў Гімназію,—было весяла, прыемна, радасна. Прайшоў тыдзень—„пад сінім небам“, як кажуць паэты,—было прыемна, радасна... Прайшлі два тыдні — было радасна... (яшчэ заняткі былі ў Гімназіі). Прайшоў месяц, і я, хоць і малады, і мускулы маю нішто сабе,—пачухаў сябе за патыліцу. І ня ведаю, што было-б, каб ня фэльетонныя мае здольнасьці. Тут, браткі, на паперы душу можна адвесьці. Папера мяне разумее. (Людзі цяпер, ведаеце, не разумеюць!).

Пісаў я ў Гімназіі шмат: адна альгебра колькі паперы патрабавала! а іншыя прадметы — Божа мой! Сабраў я цэлы ворах сшыткоў ды рукапісаў (хто-б іх друкаваў: а+в—фі!), занёс іх, ведаеце, дзе селядцы прадаюць. Танная цяпер умысловая праца! За восем гадоў маёй пільнай пісаніны дастаў усяго — 50 грошаў! (Und seh' ich, dass wir nichts wissen können!—казаў Гётэ).

І ўсё было-б добра, бачыце, каб усё прадстаўлялася так, як праз прызму. У Гімназіі прад вачыма вучня—прызма. Усё ў рожавых колярах. Але, як выйшаў я на „хвалі жыцьця“,—тут прызма й зьляцела з вачэй. І шмат тады можна бачыць „голых“ фактаў. Прад вачыма ў мяне зьявіўся пануры выгляд бацькі. Злуе, бачыце. Вучыў восем гадоў. Жылы, як кажа, выцягіваў. А цяпер—ніякай палёгкі!

І мне... на сэрцы кошкі скрабуць. Думкі, як мухі, у галаву лезуць. Пацяшаў я бацьку: вось, тата, здам экзамены, здабуду матуру—тады адразу зажывем! Белы хлеб есьці будзем! У Польшчы трэба інтэлігэнцыя! Таму й блага, што інтэлігэнцыі няма. Больш інтэлігэнцыі! Што-ж я без матуры?—ноль! Як скончу сярэднюю школу — тады й сьвет прада мною расшчыніцца. Трэба праца? Калі ласка, калі ласка. У нас, значыцца, попыт на інтэлігэнцыю. І што ты на гэта скажаш, тата? А цяпер — чым я сябе пацешу? Веру я ў шмат што: веру, што „загляне сонца і ў наша ваконца“; веру, што калісь будзе прыемна жыць на прыгожай зямлі“; веру я ў шмат ідэалаў. Але вось—„голы“ факт пад носам! Трэба бацьком памагаць. І дзе ты ў ліха паможаш? Добра, што мускулы такія-сякія маю. Вось пайду на каналізацыю. Цяпер „каналізуюць“ Вільню. Сонца пячэ. Пыл лезе ў горла. Мускул, працуй! Ну, і фэльетоны! Абавязкава! Я ўсё-ж ня дам заглохнуць духовым позывам.

А, ведаеце, я вам скажу на аканчэньне: прыемна жыць на сьвеце! Цяпер, асабліва, прыемна на вёсцы.

Ідэ.

таксама адыйсьці да Нямеччыны. Наагул, цэнтр польскага дзяржаўнага жыцьця, кажа аўтар, трэба перанесьці з Балтыцкага мора на Чорнае... Тады магутны саюз Польшчы, Украіны і Румыніі гарантаваў бы ня толькі бясьпечнасьць і трываласьць сваіх сяброў, але й мір на ўсходзе Эўропы!.. Так піша парыжскі ўкраінец у бэрлінскую газэту!

Як бачым, усе круціцца навакол справы Польскага Паморра, якая робіцца ўсе гарачэйшай.

### Ваенны пераварот у Балівіі.

У Балівіі, дзяржаве Паўдзённай Амэрыкі, выбухла ваенная рэвалюцыя. Паўстанцы—на чале з ген. Галінда—пад ваенным кіраўніцтвам нямецкага генэрала Кундта, арганізатара балівійскай арміі,—здабылі перамогу над урадам і войскам прэзыдэнта Сілеса, які, разьбіты, уцёк з краю. Паводле іншых вестак—барацьба яшчэ йдзе са зьменным шчасьцем.

## Хроніка.

× **Матура ў Навагрудзкай Гімназіі.** У траўні і чэрвені, з перарывамі, адбыліся матуральныя экзамены ў Беларускай Навагрудзкай Гімназіі. Дэлегатам ад Куратарыюма на экзаменах быў дырэктар Слонімскай гімназіі Ю. Кляйндынст. У выніку экзаменаў, з 16 прыступіўшых да экзаменаў, атрымала матуру наступных 11 абітур'ентаў: А. Аніпчык, Л. Барысаглебскі, А. Вярбіцкі, Л. Жураўлянка, Б. Кандзёра, Я. Матусэвіч, П. Пяршукевіч, Н. Санчучанка, А. Смаль, Г. Турлаянка, А. Шыран.

Прыймаючы пад увагу вялікія вымаганьні на экзаменах, асабліва па польскай мове (на раўне з польскімі гімназіямі), а таксама вялікае зьдэнэрваваньне вучняў пасьля аўтабуснае катастрофы, вынік экзаменаў трэба лічыць даволі добрым. Вучэньне вядзецца ў Гімназіі пры ўнемагчымых варунках працы: няма адпаведнага памешканьня, вячэрнія заняткі, недахоп школьных прыладаў і т. д. Заданьнем нашага грамадзянства і сьвятым абавязкам зьяўляецца напружаньне ўсіх сілаў, каб распачатая будова ўласнага будынку Гімназіі была закончана.

Пасьля экзаменаў маладыя абсольвэнты зладзілі гарбатку.

× **Прэмія за найлепшы беларускі гістарычны раман.** Э. Зюзэміль (немец) палажыў у Нямецкі Дзяржаўны Банк 11.000 польскіх злотых за найлепшыя беларускія гістарычныя раманы з часоў канца XVI і пачатку XVII сталецьцяў. Найвялікшая прэмія выносіць 5.000 зл.

× **З выдавецкае нівы.** Хутка выйдзе адрыўны календар Беларускага Выдавецкага Таварыства на 1931 год. Календар будзе зьмяшчаць у сабе аддзелы: гаспадарскі, юрыдычны, літэратурны, лякарскі, гумарыстычны, інфармацыйны, гістарычны і інш.

— Прыгатаваны да друку зборнікі вершаў Хв. Ільляшэвіча „Новая Беларусь“ і „Места вагнявокае“.

— Прыгатаваны да друку зборнік вершаў Міхася Машары.

× **З'езд Беларускага Вучыцельскага Саюзу.** 26 чэрвеня г. г. адбыўся З'езд Беларускага Вучыцельскага Саюзу. Аб пастановах З'езду падамо ў наступным нумары.

× **Зьезд Гаспадарскага Зьвязу.** На аснове §§ 26 — 29 статуту Беларускага Гаспадарскага Зьвязу склікаецца на 11 гадз., дня 2-га жніўня, сёлета, паседжаньне Рады Беларускага Гаспадарскага Зьвязу з гэткім парадкам дня: 1) справаздача Цэнтральнага Ураду і Рэвізыйнае Камісіі, 2) плян працы на наступны год, 3) выбары Цэнтральнага Ураду, 4) выбары Рэвізыйнае Камісіі, 5) бягучыя справы.

Паседжаньне Рады Зьвязу адбудзецца ў памяшчэньні Цэнтральнага Ураду Зьвязу ў Вільні, Квашэльная вул. № 23, кв. 1.

**Цэнтральны Урад Белар. Гасп. Зьвязу.**







Рэдактар-Выдавец: М. Сіняўскі.

Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.